© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ПЛЕНУМ ЦК КПСС

У Маскве адбыўся чарговы Пленум ЦК КПСС. Пленум, заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС Брэжнева Л. І. «Аб актуальных праблемах міжнароднага становішча і барацьбе КПСС за згуртаванасць сусветнага камуністычнага руху», поўнасцю адобрыў палітычную лінію і практычную дзейнасць Палітбюро ЦК у галіне міжнароднай палітыкі і ў сусветным камуністычным руху.

Пленум адзначае, што сучасны этап гістарычнага развіцця характарызуецца рэзкім абвастрэннем ідэалагічнай барацьбы паміж капіталізмам і сацыялізмам. Увесь велізарны апарат антыкамуністычнай прапаганды нацэлен цяпер на тое, каб аслабіць адзінства сацыялістычных краін, міжнароднага камуністычнага руху, разарваць перадавыя сілы сучаснасці. Пленум лічыць, што сучасная міжнародная абстаноўка настойліва патрабуе актыўных і адзіных дзеянняў усіх сіл сацыялізма, дэмакратыі і нацыянальнага вызвалення.

### НАДЗВЫЧАЙНАЯ СЕСІЯ...

...Генеральнага савета Сусветнай федэрацыі прафсаюзаў адбылася ў Маскве. Сесія абмеркавала даклад сакратарыята СФП па пытанню: інтэнсіфікацыя і расшырэнне кампаніі салідарнасці працоўных і прафсаюзаў усяго свету ў падтрымку в'етнамскага народа і за больш шырокае і рашучае асуджэнне ўзброенай агрэсіі амерыканскіх імперыялістаў.

### МАБІЛІЗАЦЫЯ

Прэзідэнт Паўднёвага В'етнама прадказаў поўную мабілізацыю ў краіне ў другой палове гэтага года. Сцвердзіў ён, што ў армію будуць уключаны ўсе мужчыны здольныя насіць зброю ва ўзросце 18 да 33 год. Адначасова адкінуў ён зноў усялякую магчымасць утварэння ў Паўднёвым В'етнаме кааліцыйнага ўрада, у якім прынялі б удзел прадстаўнікі Фронту нацыянальнага вызвалення.

### НОВЫ ЎРАД

У Чэхаславакіі паклікана новы ўрад на чале з прэм'ерам О. Чэрнікам. Кабінет складаецца з 5 віцэ-прэм'ераў і 23 міністраў.

### ЯК У ЗША ВЫБІРАЕЦЦА...

...кандыдата на прэзідэнта? На 50 амерыканскіх штатаў толькі ў 16 адбываюцца т. зв. прадвыбары, што абазначае, што толькі ў тых 16 штатах выбаршчыкі выбіраюць дэлегатаў на канвенцыі, якія вызначаюць, хто мае быць афіцыяльным кандыдатам партыі. У апошніх 34 штатах дэлегатаў назначаюць або закрытыя партыйныя канферэнцыі, або «шэф» партыі, якім найчасцей з'яўляецца сенатар, губернатар, або бурмістр найвялікшага горада. Можа здарыцца тэарэтычна, што даны кандыдат выйграе ўсе прадвыбары, але, напр., Джонсан, дагаворыцца з «шэфамі» і будзе мець за сабою большасць дэлегатаў — станецца кандыдатам.

А. К.

## БССР

### ЛЕАНОВІЧ

У сувязі з Днём геолага выступіў на старонках беларускай **«Звязды» П. Леановіч,** начальнік Упраўлення геалогіі пры Савеце Міністраў Беларускай ССР.

«Я не памылюся, калі скажу, што апошнія некалькі гадоў — самыя напружаныя, цікавыя і шчодрыя на добрыя здабыткі для беларускіх геолагаў, — піша **П. Леановіч.** — ...Я не кажу ўжо пра велізарныя паклады калійных солей, якія маюць сусветнае значэнне. Цяпер у рэспубліцы разведаны месцанараджэнні нафты, цэментнай сыравіны, шкляных пяскоў, вогнетрывалых глін, выяўлены залежы бурага і каменнага вугалю, гаручых сланцаў, фасфарытаў»...

Далей газеты паведамляюць, што летась беларуская зямля дала першы мільён тон нафты, а праз 2—3 гады здабыча «чорнага золата» ўзрасце да некалькіх мільёнаў тон. На Гродзеншчыне, у ваколіцы **Навасёлкаў,** адкрыта багатыя паклады жалезнай руды.

### ФІНЛЯНДЫІ

Мінск наведала ўрадавая дэлегацыя Фінляндыі, якую ўзначальваў фінскі міністр сельскай гаспадаркі **Марці Міетунен.** Фінскія высокія госці нанеслі візіт Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР **Сяргею Прытыцкаму** і прэм'еру беларускага ўрада **Ц. Кісялёву.**

### МАШЭРАЎ

Першы сакратар ЦК беларускай кампартыі **П. Машэраў** узнагароджаны ордэнам Леніна за заслугі ў партыйнай і дзяржаўнай дзейнасці, а таксама ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння.

### КОНКУРС

Камсамольская **«Чырвоная змена»** наладзіла конкурс **«Ці ведаеш Ты сваю Беларусь?»,** які складаецца з дзесяці запытанняў адносна падставовых фактаў з гісторыі Беларусі і беларускай культуры.

### «...СТАРАБЕЛАРУСКАЙ...»

У Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР ужо даўно распачата работа па ўкладанню **«Слоўніка старабеларускай мовы».** Выхад у свет такога слоўніка дасць магчымасць узбагаціць нашу мову новым каштоўным лексічным матэрыялам.

### САХАРАВА

«Звязда» ў нумары 82 надрукавала цікавую інфармацыю пра **Сяргея Сахарава,** арганізатара беларускага школьніцтва ў Латвіі, таленавітага фалькларыста і этнографа, які карэспандаваў з **Якубам Коласам. Сахараў** даследваў народную творчасць беларускага насельніцтва, якое пражывае на тэрыторыі паўднёва-ўсходняй Латвіі, у т.зв. Латгаліі.

### «ЛІРА»

Пры Гродзенскім тэхнічным вучылішчы хімікаў існуе клуб аматараў літаратуры і мастацтва **«Ліра».** Нядаўна адбыліся м. ін. сустрэчы з пісьменнікамі: **Данутай Бічэль-Загнетавай, Аляксеем Карпюком.**

У гэтым вучылішчы існуе таксама літаратурнае аб'яднанне **«Світанак».**

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ГОЛАС ПАРТЫІ І НАРОДА

У днях ад 9 да 11 красавіка адбылося вясеннняе пасяджэнне Сейма. Устаноўлены раней парадак дня дапоўнены быў трыма новымі пунктамі: адказ Прэзаса Рады міністраў на інтэрпеляцыю пасольскага кола «Знак», выбар старшыні Рады Дзяржавы і змены ў складзе Рады Міністраў.

Адказваючы на інтэрпеляцыю каталіцкага пасольскага кола «Знак» прэм'ер Юзэф Цыранкевіч сцвердзіў, што аўтары інтэрпеляцыі прылучыліся да бруднай гульні парушальнікаў грамадскага парадку, інтэрпеляцыя іх сталася відам адозвы, якая заахвочвала бунтароў да дзеяння. Найбольшую шкоду польскай культуры зрабілі тыя, хто злоўжывалі сцяга абаронцаў свабоды культуры да бруднай палітычнай гульні, да ашукання часткі студэнцкай моладзі і да барацьбы з народнай уладай.

Далей прэм'ер, накрэсліваючы актуальную сітуацыю ў свеце, асудзіў паклёпніцкую антыпольскую кампанію, якую вядзе супраць нашай айчыне імперыялізм, а ў асаблівасці міжнародны сыянізм. Шмат увагі прэм'ер прысвяціў таксама праблемам студэнцкай моладзі і працы вышэйшых навуковых устаноў. Гаворачы аб кадравай палітыцы ў дзяржаўным гаспадарчым і грамадскім апараце прэм'ер з асаблівым націскам падкрэсліў неабходнасць барацьбы з бюракратызмам і іншымі недахопамі людзей, якія знаходзяцца на кіруючых пасадах.

Аналізуючы галоўныя напрамкі польскай замежнай палітыкі Юзэф Цыранкевіч прадставіў становішча польскага ўрада ў адносінах да асноўных міжнародных праблем, асабліва падкрэсліваючы прытым значэнне польска-**савецкай дружбы.**

У дыскусіі пасля выступлення прэм'ера забрала голас шмат паслоў, якія поўнасцю падтрымалі яго становішча ў адносінах да інтэрпеляцыі пасольскага **кола «Знак».**

Сейм прыняў заяву Эдварда Охаба, які з увагі на стан здароўя не можа выконваць сваіх абавязкаў і ўвольніў яго з пасады старшыні Рады Дзяржавы. На Старшыню Рады Дзяржавы выбрана маршала **Мар'яна Спыхальскага** дататачаснага міністра Нацыянальнай абароны. На прапанову прэзаса Рады Міністраў Сейм паклікаў на пасады: міністра Нацыянальнай абароны — генерала дывізіі **Войцеха Ярузэльскага,** міністра лёгкай прамысловасці — **Тадэуша Куніцкага** міністра спажывецкай прамысловасці і скупкі — **Станіслава Гуцву.** Адначасова Сейм адклікаў — Яўтенія Ставінскага з пасады міністра лёгкай прамысловасці, Фэлікса Пісулю — з пасады міністра спажывецкай прамысловасці і скупкі і Мечыслава Леша — з пасады міністра. Сейм прыняў адрачэнне пасла Ежы Завейскага з пасады члена Рады Дзяржавы.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЕРШАМАЙСКІ КАМІТЭТ

У Беластоку заснавана Першамайскі ваяводскі камітэт, у які ўвайшло 45 асоб — прадстаўнікоў палітычных партый, грамадскіх арганізацый, прафсаюзаў, дзяржаўных устаноў і буйных прамысловых прадпрыемстваў. Сярод членаў камітэта — першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку **А. Лашэвіч,** а таксама старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку С. Жмійка. Камітэт заняўся падрыхтоўкай і правядзеннем свята працоўных — Першамая ў Беластоку і Беластоцкім ваяводстве.

### ЗВЫШПЛАНАВАЯ ПРАДУКЦЫЯ

Ініцыятарам даз'ездаўскага прадукцыйнага чыну на Беласточчыне быў калектыў баваўнянага камбіната ў Фастах. Сёння можам паінфармаваць нашых чытачоў, што фастаўскі камбінат, ажыццяўляючы свае даз'ездаўскія абавязацельствы, перавыканаў план першага квартала г.г. на 6 мільёнаў зл.

Паспяхова праходзіць ажыццяўленне даз'ездаўскіх абавязацельстваў таксама ў воўнаапрацоўчай фабрыцы імя Сяржана. Дала яна звыш плана 10 тон пражы і звыш 20 тысяч метраў тканіны.

Беластоцкае гарбарскае прадпрыемства выпусціла звыш плана 4.600 квадратных метраў мяккай скуры. У фабрыцы металічных прылад і абсталяванняў у Беластоку звышпланавая прадукцыя за 1 квартал г.г. склала 1 мільён злотых, а чыгуначнае прадпрыемства стальных канструкцый у Старасельцах план мінулых 3 месяцаў закрыла надбаўкай у 1 мільён 600 тыс. зл.

### БУДУЧЫНЯ ЧОРНАЙ БЕЛАСТОЦКАЙ

Чорная Беластоцкая, як вядома, зусім нядаўна стала горадам. З кожным аднак годам затрачвае яна сваё даўняе вясковае аблічча. Вось у раёне вуліц Траўгута, Таровай і Ліповай пачалася пабудова 12-ці асабнякоў, якіх будзе разам 43. Такім чынам у Чорнай Беластоцкай узнікне прыгожы жыллёвы мікрараён.

### ВЫСТАЎКА МАСТАЦТВА

Беласток нядаўна атрымаў новую невялічкую залу для выставак. Памяшчаецца яна ў браме Беластоцкай медыцынскай акадэміі. Там сваю мастацкую майстэрню меў мастак С. Рыбі. Згадзіўся ён, каб іншыя беластоцкія мастакі змясцілі ў яго майстэрні свае малюнкі і такім чынам узнікла скромная галерэя мастацтва. Адкрыта яна для публікі ў нядзелю, аўторак і чацвер ад 14 да 17 гадзіны. Раім яе наведаць. Пры нагодзе інфармуем, што мастак С. Рыбі пастаянна працуе ў нашай рэдакцыі.

### ПАСЛУГІ

На працягу двух апошніх гадоў на Гайнаўшчыне заснавана 230 новых пунктаў для рознага роду паслуг. Працу ў гэтых пунктах знайшло 360 асоб.

### АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВА ЛЕКАРАЎ

З нагоды Дня работніка службы аховы здароўя лекары Дуброўскага павета прынялі абавязацельства да 10-га чэрвеня г.г. правесці лекарскі агляд усіх вучняў у павеце.




NIEDZIELA, 21.IV.

8.55 Program dnia. 9.00 TV Kurs Rolniczy: ,,Racjonalny dobór maszyn dla Kołek Rolniczych''. 9.35 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.45 ,,Puszcza Białowieska'' — film pol. 10.00 ,,Serce matki'' — film fab. radz. 11.25 ,,Zamki polskie'', film. 11.45 Dziennik. 12.00 ,,Szpada gaskońska'' — film (,,Przygody trzech muszkieterów''). 12.30 Koncert muzyki popularnej. 13.35 ,,Przemiany''. 14.05 Teatrzyk dla przedszkolaków: A. Chodorowska — ,,Pies z ulicy Szerokiej''. 14.45 Dla dzieci ,,Przyjaciele czworonożnych bohaterów''. 15.15 ,,Instruktaż'' — felieton TV. 15.25 ,,Spotkanie z pisarzem'' — Julian Przyboś. 15.55 Sprawozdanie sportowe. W przerwie, ok. 16.45 PKF. 17.45 Teatr Komedii Współczesnej: St. Tym — ,,Nie ma takiego problemu''. 18.55 ,,Ludzie i zdarzenia''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Niedzielny program rozrywkowy (Praga). 21.00 ,,Juana Gallo'' — film fab. meks. 22.45 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK, 22.IV.

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.15 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Kino Ptyś''. 17.15 Dla młodych widzów: ,,Zrób to sam''. 17.30 ,,Włodzimierz Iljicz Lenin'' — film tv radz. 17.50 ,,Azymut''. 18.15 ,,Kino Krótkich Filmów''. 18.45 ,,Eureka''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: M. Bułhakow — ,,Dni Turbinych''. 21.40 ,,Oddział B'' — rep. filmowy. 21.55 Dziennik.

WTOREK, 23.IV.

8.25 ,,Niebo bez krat'' — film fab. rum. 9.55 Dla szkół (kl. lic.) J. U. Niemcewicz — ,,Powrót posła''. 10.30 Przerwa. 11.00 Dla szkół (kl IV) ,,Jeden dzień w Warszawie''. 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. V i VI) Język polski: ,,Czerwony krawat'' (,,O miejsce wśród ludzi'') ,,Przyjaźń''. 12.30 i 15.00 Przysposobienie Rolnicze: ,,Choroby bydła''. 13.05 Przerwa. 15.45 i 22.20 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Dwa kółka''. 17.20 Dla młodych widzów: ,,Czym dawniej leczono'' cz. II (,,Klub pod Smokiem''). 17.50 ,,Nie tylko dla pań''. 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.25 ,,Oferta zawodowa'' (,,7 milionów młodych''). 18.40 ,,Giełda piosenki''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Program studencki. 20.35 ,,Rok Franka W'' — film dok. TVP. 21.35 ,,Cena szarych komórek''. 22.00 Dziennik.

SRODA, 24.IV.

9.50 ,,Rok Franka W'' — film TVP. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: ,,Praca i ciepło''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka :,,Prąd trójfazowy''. 12.25 Przerwa. 13.25 Matematyka w szkole: ,,Rodzaj izometrii''. 14.00 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 22.35 Politechnika TV I roku. 16.35 PKF. 16.45 ,,Telekram''. 16.55 Sprawozdanie sportowe. W przerwie, ok. 17.45 Dziennik. 18.45 ,,Za kierownicą''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Rozmowy o książkach''. 20.20 ,,Chopin, Liszt i Brahms w Krakowie'' — program słowno-muzyczny. 20.50 ,,Światowid''. 21.25 Studio 63: ,,Telepatrzydło pana Prusa'' cz. II. 22.10 Dziennik.

CZWARTEK, 25.IV.

9.55 Dla szkół (kl. lic.) Język polski: ,,Poezja Polskiego Odrodzenia''. 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. V) Historia: ,,W stolicy Mazowsza''. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.35 Politechnika TV II roku. 16.25 i 23.10 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Ekran z bratkiem''. 18.00 ,,Nad Odrą i Bałtykiem''. 18.30 ,,Tam gdzie była Alba Regia'' — film Telearu (,,Z kamerą po świecie''). 18.45 ,,Berżeretki i słowiki'' — program muzyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Nietolerancja czyli zadżumienie''. 20.35 Teatr Sensacji: A. Borkesi: ,,Willa pod Wiedniem''. ok. 21.45 ,,Refleksje''. 22.15 Dziennik.

PIĄTEK, 26.IV.

9.55 Dla szkół (kl. lic.) Magazyn aktualności ,,Panorama''. 10.20 ,,Ludzie i bestie'' — film fab. radz.-niem. cz. I. 11.55 Dla szkół (kl. V) Wychowanie plastyczne: ,,Analiza dzieła plastycznego''. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.15 ,,Fujarka'' — film radz. 17.40 ,,Klub Dobrych Gospodarzy''. 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 ,,Sztafeta nowości'' (Moskwa). 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Kontakty''. 20.35 Teatr TV. Z. Krężołowski: ,,Spadkobiercy''. ok. 22.00 ,,Pejzaże''. 22.20 Dziennik.

SOBOTA, 27.IV.

9.05 ,,Ludzie i bestie'' — film fab. radz.-niem. cz. II. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: ,,Jesteś dziewczyną''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VI) Geografia: ,,Ziemia Lubuska''. 12.25 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 TV Kurs Rolniczy: ,,Zbiór zbóż kombajnami''. 16.15 ,,Gimnastyka artystyczna'' (,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''). 16.25 Program Tygodnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Konkurs pięciu milionów''. 18.05 ,,Spotkania z przyrodą''. 18.30 ,,Tele-Echo''. 19.20 Dobranoc. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Chłopcy z naszych stron''. 21.10 Dziennik. 21.25 Wiadomości Sportowe. 21.35 ,,Tajemnice Hollywood'' — film fab. USA. 22.50 Filmowy program rozrywkowy.




Piątek, 19 kwietnia

8.00 ,,Rok 18-ty''. Film. 14.45 Nowiny. 14.50 Program dnia. 14.55 Język angielski dla przedszkolaków. 15.15 Teatr Noweli Muzycznej. 16.00 ,,Dzień jutrzejszy naszej republiki''. 16.20 ,,Ja z 60-ch''. 17.15 Klub Filmowy. 18.15 Sztafeta Nowin. 19.15 Program oświatowy. 19.30 ,,Kot morski''. Film. 20.45 ,,5+2''. 21.20 Na dobranoc.

Sobota, 20 kwietnia

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 Dla studentów. 9.30 Dla uczniów szkół technicznych. 11.00 Język angielski dla przedszkolaków. 11.30 ,,Reportaż sobotni''. 12.00 Uniwersytet wiedzy pedagogicznej. 12.30 W eterze — ,,Młodość''. 13.00 Hokej: ,,Spartak (M) — ,,Dynamo'' (M). 15.15 TV barwna. 16.50 ,,Kartki z kalendarza muzycznego''. 17.05 ,,Dla każdego coś miłego''. 18.00 Koncert orkiestry estradowej. 18.30 ,,Czas''. 19.00 ,,Pieśni o Leninie''. 19.15 Almanach TV. 20.25 Śpiewa Tito Gobi. 21.30 Program dnia. 21.35 Sala tańców.

Niedziela, 21 kwietnia

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.15 ,,Budzik''. 7.45 Dziennik. 8.00 ,,Kierunek — socjalizm''. 8.35 ,,Prosty jak prawda''. 9.00 Dla młodzieży. 10.00 ,,Nieśmiertelny obraz''. 10.30 ,,TV atlas narodów ZSRR''. 11.00 Dla żołnierzy. 11.30 Szkatułka Muzyczna. 11.40 ,,Po raz pierwszy do pierwszej klasy''. Film. TV. 11.55 ,,Lenin w Polsce''. Film. 13.30 Program rozrywkowy dla uczniów. 14.10 ,,Białe i czarne''. 14.30 Koncert Państwowej Kapeli Chóralnej BSRR. 15.00 Piłka nożna: ,,Dynamo'' (Mińsk) — ,,Pachtakor'' (Taszkient). 16.45 ,,Umowa przyjaźni''. 17.00 Finał mistrzostw ZSRR w gimnastyce artystycznej. 18.30 ,,Siedem dni''. 19.15 Wieczór wiersza. 20.00 Program rozrywkowy z Pragi. 21.00 Tylko fakty.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## АНДРЭЙ ВАНГІН



**Ад 1946 года жыве і працуе ў Гданьску Андрэй Вангін (псеўданім А. Блажэвіч). Быў ён у дваццатых гадах удзельнікам тэатральнай трупы аб'язнога тэатра У. І. Галубка. Гэты тэатр абслугоўваў насельніцтва раённых цэнтраў і вёсак Савецкай Беларусі. Адным з найбольш таленавітых артыстаў аб'язнога тэатра быў Андрэй Вангін.**

**Тэкст і фота М. Хмялеўскі**

# ПРАЎДА АБ ГУРТКУ ЗМВ У ДЗЯНІСКАХ

Пісьмо, якое ніжэй прыводзім, не прыйшло ў рэдакцыю. Журналіст знайшоў яго ў Павятовым праўленні ЗМВ у Бельску. Не ведаем ні імя, ні прозвішча яго аўтара. Адно толькі вядома, што гэта член ЗМВ, вучаніца адной з сярэдніх школ Бельска, а родам сама праўдападобна з Дзянісак. Зрэшты, прачытайце і ацаніце самі.

«Моладзь вёскі Дзяніскі аб'яднаная ў вясковым гуртку ЗМВ умела разьязвае праблемы культурнага жыцця. Гурток, міма што існуе толькі ад ліпеня 1967 г., можа ўжо пахваліцца дасягненнямі.

Пачынаючы рэалізацыю апрацаванага плана працы гуртка ЗМВ, моладзь прыступіла да генеральнага рамонту мясцовай святліцы — адзінага месца, дзе вядзецца культурнае жыццё. Ставячы перад сабой так важнае і цяжкае заданне, моладзь разлічвала хаця на мінімальную дапамогу з боку ГРН у Храбалах. ГРН ашукала надзеі моладзі. Нягледзячы на тое моладзь не заламалася і за ўсякую цану рашыла выканаць сваё заданне. Амаль ад кожнага жыхара вёскі сабралі грошы і так прыступілі да працы.

У гарачы для вёскі час, г.зн. у часе жніў, моладзь цэлы дзень працавала на полі, а вечарам збіралася і выконвала рамонт, часам нават да другой гадзіны ўночы. Часта і ў дзень хто-небудзь вымушаны быў пакідаць у полі працу, каб паехаць у Бельск і купіць фарбу ці пільснёвую пліту.

Пасля месячнай штодзённай салідчай працы моладзь закончыла рэалізацыю свайго першага «задання». Удалося! Святліца была адрамантавана... Некаторыя жыхары вёскі проста не маглі паверыць, што гэткую працу выканала моладзь, такая, як гавораць, распушчаная і несамастойная. Моладзь з Дзянісак даказала, што гэта няпраўда, і што ўсё можна зрабіць, калі б толькі была ахвота і зразуменне з боку старэйшых жыхараў вёскі...

Да адноўленай святліцы прынесена тэлевізар, павешана фіранкі, сцэнгазету, карціны. Усё гэта стварыла эстэтычны выгляд унутры памяшкання. Жыхары вёскі маглі аглядаць вячэрнія тэлевізійныя перадачы, а моладзь узбагаціць свой рэпертуар у галіне польскай і савецкай песні...

Гаворачы аб моладзі з Дзянісак, маю надзею, што гэта не апошняе іх заданне, а за гэта, што зрабіла, належацца словы прызнання. Працу яе ацэнена на 20 тыс. зл. У далейшым план дзейнасці прадбачвае рамонт святліцы знадворку, у чым напэўна дапаможа ГРН у Храбалах».

Як відаць, ліст пісаны даўно, але паколькі ён вельмі добра адлюстроўвае сітуацыю і выхад з яе самой моладзі, друкуем яго тым больш, што аб гэтым піша малады чалавек. А як у вашай вёсцы дзейнічае гурток ЗМВ?

А. К.




(Працяг са стар. 1)

розная тыпу агляды і конкурсы. Ёсць іх многа кожны год. Конкурсы і агляды прыцягваюць моладзь да мастацкай працы, дапамагаюць павышаць узровень мастацкіх выступленняў.

Успомненая цесная сувязь выступленняў аматарскіх гурткоў з вясковымі гульнямі мае дваякае значэнне. Па-першае, уводзіць у вясковыя гульні нейкі лад, парадак, арганізаванасць. І гэта добра. Па-другое, аднак, аматарскія гурткі праз гэта самае значна абніжаюць свой узровень, затрачваюць свой мастацкі змест на кошт звычайнай вясковай забавы. Гурткі ідуць такім чынам па лініі найменшага супраціўлення. Мастацкія выступленні аматарскіх гурткоў часцей за ўсё пазбаўлены большых мастацкіх амбіцый, пераважаюць драматычныя гурткі, якія, як вядома, арганізаваць значна лягчэй, чымсці харавыя гурткі, ці тым больш інструментальныя. Так, напрыклад, у Бельскім павеце на 45 дзейнічаючых там гурткоў аж 39 гурткоў драматычных.

Падсумоўваючы, трэба сказаць, што мастацкі аматарскі рух на вёсцы з'яўляецца своеасаблівым скрыжаваннем уздзеяння на вёску: з аднаго боку ўстаноў пакліканых да пашырання культуры на вёсцы, а з другога — традыцыйных звычаяў і звычак. У скрыжаванні гэтым шмат добрага але шмат і дрэннага. Добрае тое, што рух гэты ўсё ж такі развіваецца, дрэннае — што стаіць ён часта на надта нізкім узроўні, а часам нават, як мы ўжо сказалі, з'яўляецца проста неабходным з фармальнага боку дадаткам да звычайнай вясковай забавы. Дрэнна і тое, што аматарскія гурткі не навязваюць непасрэдна да мясцовай народнай традыцыі. Прыемным выключэннем з'яўляецца гурток у вёсцы Паўлы, Бельскага павета, які ў свой час выкарыстаў на сцэне мясцовы вясельны фальклор. Гэтая заслугоўваючая на пахвалу і падтрымку ініцыятыва не знайшла аднак прадаўжальнікаў. У вясковых гуртках пераважаюць п'есы, часта не найлепшай якасці.

**Уладзімір Паўлючук**

# ДАМЫ НАСТАЎНІКАМ

(Працяг са стар. 1)

не бачыць справы пабудовы школьных памяшканняў першапланавай. Факт гэта ж ясны, апрача іншых, што калі пабудуецца ў данай вёсцы чынам памяшканне настаўніку, можна будзе будаваць і школу, але калі наадварот, дык з пабудовай памяшкання будзе цяжка. Адчуваецца таксама, што і ваяводства і паветы не маюць рэальных планаў пабудовы памяшканняў. Рэальным з'яўляецца толькі тое, што ў плане, а па-за планам? Памятаю выступленні дырэктара Будаўлянага тэхнікума ў Беластоку, тав. Лянгевіча, які некалькі год назад выступаў з прапановай, каб выкарыстоўваць вучняў будаўляных школ да будаўляных прац. У Варшаўскім гэтыя вучні будуюць дамы настаўнікам, у нас разглядаецца гэтую прапанову. Падазраваць можна, што ў Варшаўскім маглі даведацца аб гэтай ініцыятыве ад нас, але розніца ў тым, што яны ўвялі яе ў чын.

Адношу ўражанне, што адміністрацыйныя ўлады ўсё лічаць найважнейшай справай школьныя памяшканні, а памяшканнямі для настаўнікаў перш за ўсё займаюцца прафсаюзныя арганізацыі. Ці ж сапраўды не здаюць сабе справы, што настаўнік новай школы павінен таксама сам жыць па-новаму? Ці не варта падумаць і аб тым, што добрае памяшканне настаўніку ўстабілізуе кадры нават у найбольш адлеглых школах?

Справа хуткай пабудовы школьных памяшканняў патрабуе не толькі прыхільнасці, але, як кожная новая справа, і пэўнай рызыкі.

**А. Карпюк**

## Serce na dłoni

Гэта выдатная кніжка беларускага празаіка **Івана Шамякіна**, якая днямі паявілася на нашым кніжным рынку. Пераклаў яе вельмі добра на польскую мову **Леан Сусід**.

**«Сэрца на далоні»** — кніжка, якой немагчыма не прачытаць. Паказана ў ёй барацьба старога з новым, чалавечнасці з подласцю, дабра са злом.

Кніжку падрыхтавала выдавецтва «Ксёнжка і Ведза», надрукавана яе ў тыражы 5 тысяч экз. Цана — 35 зл.

(ся)

# СЛОВАМ І ПЕСНЯЙ

Эстрада ў наш час — адно з самых рухомых аператыўных і дзейсных сродкаў выхавання. Яна непасрэдна ўздзейнічае на гледача сваім добрым жартам і гумарам, шчырай песняй, усхваляваным вершам. Раней Гайнаўскі аддзел БГКТ меў вялікі харавы калектыў. Пасля ператварыўся ён у невялікую 15-асабовую эстраду. Яна мае ўжо вялікія дасягненні. Выступае параўнальна часта ў вёсках і мястэчках і заўсёды карыстаецца ў беларускіх асяроддзях заслужаным поспехам.

А цяпер коратка скажам аб членах эстрады.

Харавая група пры акампаніяменце мастацкага кіраўніка Віталіса Макаца прыгожа спявае беларускія, рускія, украінскія і польскія песні. Тут адчуваецца вялікую зладжанасць, любоў да песні, адданасць сваёй справе. Жаночая харавая група пасля кожнай песні атрымоўвае вялікія апладысменты. Таксама моцна апладзіруюць дуэту: Надзі Раманюк і Ані Сухадолы і квартэту: Надзі Кандрацюк, Любе Куптэль, Іне Мартынюк і Ніне Залуска. Усе яны валодаюць прыемнымі галасамі, добра трымаюцца на сцэне.



Канферансье — Сяргей Сац.



Мастацкі кіраўнік эстрады — Віталіс Макац.



Квартэт эстрады.

Музычнае трыо: Віталіс Макац — акардэаніст, Міша Піўнік — электрагітара і Янка Саўчук — барабаншчык, вылучаецца высокім майстэрствам і тэмпераментам. Цёпла прыймаюць гледачы гумарыстычную сцэнку пад загалоўкам «Ідэальная жонка».

Вялікую ролю адыгрывае ў Гайнаўскай эстрадзе БГКТ канферансье — Сяргей Сац. Сваім дасціпным, вострым, сакавітым гумарам на беларускай мове надае канцэртам эстрады нацыянальны каларыт. Ён валодае ўменнем навязаць кантакт з глядзельнай залай, а гэта вельмі ж важнае.

Паводле мастацкага ўзроўню гайнаўскую эстраду можна параўноўваць да эстрады ГП, тым больш, што ёсць шмат у ёй нумараў, якія выконваюцца нават з большым майстэрствам.

**Тэкст і фота М. Хмялеўскі**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

**КАНДЫДАТАМ У ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫЯ ШКОЛЫ**

# ПРАЧЫТАЙ, ПАДУМАЙ ВЫБЯРЫ!

Цэлы год прыходзяць пісьмы ў Рэдакцыю з пытаннямі аб рознага тыпу школах. У гэтым годзе хочам дапамагчы некаторым з вас, падаючы інфармацыі аб прафесіянальных школах, якія існуюць перш за ўсё ў Беластоцкім ваяводстве. Адначасова **абяцаем адказаць на кожнае ваша пісьмо ў справах выбару школы ці прафесіі і падамо адрасы школ, якія Вас цікавяць. Чакаем на пісьмы!**

Інфармуем, што маем дакладны спісак прафесіянальных школ для моладзі, якая закончыла:

— szkołę podstawową
— IX klasę Liceum ogólnokształcącego
— zasadniczą szkołę zawodową
— zasadniczą szkołę rolniczą
— zasadniczą szkołę mechanizacji rolnictwa
— zasadniczą szkołę ogrodniczą
— szkołę przysposobienia rolniczego

Раім таксама, каб тыя, хто мае пэўныя сумненні адносна выбару прафесіі або канфлікт між пажаданнямі бацькоў а сваімі ўласнымі, звярнуліся да: **Psychologicznych Poradni Zawodowych**

Okręgowa poradnia — Białystok, ul. Warszawska 63.

Powiatowe poradnie — Bielsk-Podlaski, Łomża, Mońki.

### ZASADNICZE SZKOŁY ROLNICZE

**Ostrożany,** pow. Siemiatycze. Z.S. Rolnicza — internat. (Rolnik).

**Rudka,** pow. Bielsk-Podl. Z.S. Rachunkowości Rolnej — internat. (Pracownik administrayjno-biurowy).

**Suwałki,** ul. T. Kościuszki. Z.S. Ogrodnicza — internat. (Ogrodnik).

### ZASADNICZE SZKOŁY ZAWODOWE

**Białystok: ul. Słonimska 47. Z.S. Budowlana** — internat. (Betoniarz — zbrojarz, murarz, monter wewnętrznych instalacji budowlanych, blacharz, malarz budowlany); **ul. Sosnowa 64a. Z.S. Zawodowa** — internat. Frezer, ślusarz-mechanik, tokarz, stolarz, kowal, mechanik pojazdów samochodowych); **ul. Nowotki 1. Z.S. Zawodowa CZSP** — internat. (Fryzjer, optyk okularowy, elektromechanik, introligator); **ul. A. Grottgera 9. Z.S. Elektryczna.** (elektromonter, monter urządzeń telekomunikacyjnych, elektroenergetyk); **ul. A. Mickiewicza 43. Z.S. Włókiennicza** — internat. (Tkacz, przędzarz wełny zgrzebnej); **ul. 1 Maja 11/4. Z.S. Gastronomiczna** — internat. (Kucharz, kelner, piekarz);

**Bielsk-Podlaski, ul. Szkolna 12. Z.S. Zawodowa** — internat. (Mechanik maszyn rolniczych, elektromonter);

**Choroszcz,** ul. A. Mickiewicza 28, pow. Białystok. Z.S. Budowlana — internat. (Stolarz, cieśla);

**Hajnówka,** ul. 1 Maja 17/19. Z.S. Zawodowa — internat. (Stolarz, ślusarz-mechanik, tokarz, elektroenergetyk);

**Michałowo,** ul. Grójecka 21 pow. Białystok, Z.S. Mechanizacji Rolnictwa — internat. (Mechanik maszyn rolniczych, ślusarz-mechanik).

**Siemiatycze,** ul. T. Kościuszki 42. Z.S. Handlowa. (Sprzedawca).

**Sokółka,** ul. 22 lipca 17. Z.S. Zawodowa — internat. (Kowal, ślusarz-mechanik, tokarz).

У наступным нумары тэхнікумы Беластоцкага ваяводства. (ак)




Трусагадоўля ў нашай краіне ў апошніх гадах вельмі развіваецца. Хопіць сказаць, што калі ў 1961 годзе скуплена толькі 1.011 тон, дык у мінулым годзе — 17 тыс. тон трусоў. Планы на гэты год яшчэ большыя.

Каб выканаць гэты план, неабходна весці адпаведную прапаганду і распаўсюджванне трусагадоўлі. Асноўная роля ў скупе трусоў прыпадае прадпрыемствам вясковага гандлю (ГС-ы і ПЗГС-ы).

Вялікія надзеі ў гэтай галіне ў школьнай моладзі. Разыходзіцца пра тое, каб іменна школьную моладзь, перш за ўсё на вёсцы, заахвоціць да гадоўлі трусоў. Цэнтральным уладам залежыць на развіцці трусагадоўлі ў Беластоцкім ваяводстве. У гэтай справе неабходным з'яўляецца зацікаўленне гарцэраў і вучнёўскіх спулдзельняў. У прапагаванні трусагадоўлі павінны адыграць сваю ролю «фотапшэзроча», якія ў паразуменні з Міністэрствам асветы атрымае кожны павет (па 3 камплекты), а якія будуць папулярызаваць у школах гадоўлю трусоў. Прадбачваецца таксама выдаць адпаведныя плакаты, выдавецтвы, паштовыя маркі, фільм і інструктажовую кніжку.

Адным з найбольш істотных элементаў заахвочваючых да трусагадоўлі з'яўляецца павышэнне цаны скупу трусоў, якая абавязвае **ад 1 сакавіка гэтага года.** Цана трусоў **I гатунку,** г. зн. больш чым 3,5 кг павысілася (трусоў, каляровых) з 23 да 25 зл. за 1 кг, а трусоў белых — з 24 да 27 зл. Адпаведна **гатунак II** (вага ад 2,5 да 3,5 кг) — з 20 да 22 зл. і з 21 да 24 зл., урэшце **III гатунак** (вага менш чым 2,5 кг) з 16 да 18 зл. і з 17 да 20 зл. за кілаграм. Цана **трусоў ангорскіх,** без разліку на гатунак, павышана з 16 да 19 зл. за кілаграм.

Вельмі заахвочваем. (ак)



**Швачка Марыя Міруць у гарадоцкай трыкатажцы працуе ўжо 10 год. Зараз шые світры «гольфы» для дзяўчат.**

## ГАРАДОЦКАЯ ТРЫКАТАЖКА

Гарадок вырас, па-праўдзе, на тэкстыльнай прамысловасці. Да вайны ў Гарадку існавала аж 7 тэкстыльных фабрык.

Пасля вайны з гарадоцкіх фабрык засталіся разваліны і попел. У 1945 годзе рабочыя самастойна адрамантавалі некалькі машын і пачалі прадукцыю. Выпускалі ўсё, на што знаходзілі сыравіну: пледы, палатно, коўдры, а нават цвікі і ланцугі.

— У 1958 годзе ў нашай фабрыцы працавала ледзь 38 чалавек, — гаворыць кіраўнік гарадоцкай трыкатажкі А. Кандрусік. — Прадукцыя неапраўдвала сябе, была не рэнтабельная, мала якасная і не знаходзілася пакупнікаў.

Іду паглядзець прадукцыю. Дзень вясенні, сонечны. Фабрычныя цэхі раскінуты ў некалькі будынках. Прасторныя яны і светлыя. У сонечных праменнях ярка зіхацяць шматлікія колеры: белы, жоўты, чырвоны, сіні, блакітны. Гэта горбы блузак, світраў — гэтых наймаднейшых з «гольфамі» — рубашак, розных трусікаў і іншай бялізны. Усё гэта, як жывое, праходзіць з рук у рукі, аж урэшце прымае форму, якую бачым у магазінах, якую носім на сабе. Разам 3 мільёны 800 тыс. штук у год.

За машынамі — жанчыны, пераважна маладыя. Сярэдні ўзрост калектыву гарадоцкай трыкатажкі — 26—28 год. Жанчыны тут царствуюць. Іх звыш 90 працэнтаў. Прыйшлі з Гарадка і навакольных вёсак. Хутка навучыліся прафесіі. Сядзяць за машынамі ў белых фартухах. Кіраўнік іх хваліць — што працавітыя, што дысцыплініраваныя.



**Антаніна Крысюк, якой зараз 53 гады, у тэкстыльнай прамысловасці Гарадка працавала яшчэ да вайны.**

Яны хваляць кіраўніка — што сардэчна да іх адносіцца, што ахвотна слухае іх клопатаў і стараецца дапамагаць у бядзе. Разам калектыў гарадоцкай трыкатажкі налічвае звыш 300 асоб. У недалёкай будучыні гэты лік падвоіцца.

— Як вам працуецца? — пытаю. Работніцы, быццам змовіліся, паўтараюць адзіны і той жа адказ: «А што нам, цёпла і спакойна, работа чыстая, няма чаго наракаць».

Прадукцыя гарадоцкай трыкатажкі трапляе да 190 гандлёвых арганізацый, найбольш у Катавіцы, Вроцлаў, Гданьск, Варшаву, Познань, найменш, на жаль, у Беласток і Беластоцкае ваяводства. У мінулыя гады шмат выпускалі на экспарт у Савецкі Саюз. У Гарадку робяць баваўняны трыкатаж. Ён танны і таму знаходзіць многа пакупнікаў. Клопату са збытам свайго тавару гарадоцкая трыкатажка не мае.

**В. Рудчык**
фота аўтара



**Кіраўнік гарадоцкай трыкатажкі Анатоль Кандрусік і загадчыца змены, майстар Станіслава Жукоўская.**




## II. БЕЛАРУСЬ У БАРАЦЬБЕ СУПРАЦЬ НЯМЕЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ. УТВАРЭННЕ БССР.

Сацыялістычнае будаўніцтва ў Беларусі, як і ва ўсёй Краіне Саветаў, было загамавана нашэсцем нямецкіх войск. У лютым 1918 года яны захапілі Прыбалтыку, частку Украіны і Беларусі.

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад заклікалі працоўных да ахвярнай барацьбы са смяротным ворагам маладой Краіны Саветаў. У адказ на заклік рабочыя і сяляне Беларусі ўступалі ў рады Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, якая фармавалася ў ходзе барацьбы з захопнікам, або ішлі ў партызанскія атрады, каб змагацца на тылах ворага. У выніку гераічнай барацьбы Чырвонай Арміі і партызан наступленне нямецкіх войск было спынена. Паміж Германіяй і Савецкай Расіяй было падпісана ў Брэсце мірнае пагадненне. Яно было цяжкім для Краіны Саветаў, але давала магчымасць ёй сабраць сілы для далейшай барацьбы з захопнікам.

На акупаванай частцы беларускіх зямель нямецкія захопнікі аднавілі ўладу памешчыкаў і капіталістаў, грабілі гарады і вёскі, вывозілі ў Нямеччыну тысячы беларусаў на прымусовыя работы, учынялі крывавыя расправы над мірным насельніцтвам. Але ніякім тэрорам не змаглі яны пакарыць беларускі народ.

Ад пачатку акупацыі на занятай немцамі тэрыторыі Беларусі разгарнулі сваю дзейнасць шматлікія падпольныя бальшавіцкія арганізацыі. Яны сталі арганізатарамі і кіраўнікамі партызанскага руху. Ён ахапіў усе запалоненыя немцамі беларускія землі. У адным толькі Полацкім павеце дзейнічала ў партызанскіх атрадах каля 13 тысяч чалавек. На Палессі змагалася каля 15 тысяч партызан. Яны ўзрывалі чыгункі і масты, знішчалі нямецкіх афіцэраў і салдат, адбівалі палоннікаў і арыштаваных. У гарадах баставалі рабочыя, па вёсках сяляне грамілі карныя нямецкія атрады. Барацьба супраць захопнікаў стала ўсенароднай.

У лістападзе 1918 года ў Германіі адбылася рэвалюцыя.

У гэтым жа часе Чырвоная Армія распачала контрнаступленне супроць нямецкіх захопнікаў. Пад ударамі савецкіх армій і партызанскіх атрадаў адступленне ворага хутка ператварылася ў панічны ўцёк.

10 снежня 1918 года быў вызвалены Мінск, а да канца снежня ачышчана была ад захопнікаў амаль уся Беларусь. На вызваленай беларускай зямлі адбудоўвалася Савецкая ўлада.

30—31 снежня 1918 года ў Смаленску адбыўся Першы з'езд Камуністычнай партыі Беларусі. Ён выбраў Цэнтральнае бюро КПБ пад старшынствам А. Ф. Мяснікова. З'езд зацвердзіў склад Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі на чале з Д. Жылуновічам.

1 студзеня 1919 года ўрад Беларусі ў сваім Маніфесце абвясціў усяму свету аб утварэнні беларускай дзяржавы — Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі са сталіцай у горадзе Мінску. Здзейснілася адвечная мара беларускага працоўнага люду аб пабудове вольнага ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту грамадства.

У атмасферы вялікай радасці і ўсенароднага ўздыму пачалася ва ўсёй Беларусі падрыхтоўка да Першага Усебеларускага з'езда Саветаў. З'езд адбыўся 2—4 лютага 1919 го-



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Л. ВАРАБЕЙ Л. РАМАНЮК

# МІР НАМ ПАТРЭБЕН

## ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

### ПЛАН ПРАЦЫ НА IV КВАРТАЛ:

21 красавіка: Васіль Хомчанка «Ленінскія яблыні»; 28 красавіка: Янка Купала «А мы сабе сеем і сеем...»; 5 мая: Віталі Вольскі «Навальніца»; 12 мая: Алаіза Пашкевіч (Цётка) «Мой сад»; 19—26 мая: Валерыян Ляшэвіч «Знаходка»; 2 чэрвеня: Мікола Хведаровіч «Новы дзень»; 9 чэрвеня: Януш Рошка «Маніфест»; 16 чэрвеня: Ніл Гілевіч «Сябры ў паходзе».

### ЛЕНІНСКІЯ ЯБЛЫНІ

Летась я быў у Польшчы. У вёсцы недалёка ад Кракава да нас падышла дзяўчынка з поўным кошыкам яблыкаў.

— Частуйцеся, — сказала яна і паставіла кошык на капот машыны. — Смачныя яблыкі.

Яблыкі былі сакоўныя, на сонцы прасвечваліся мёдам.

Мы пахвалілі дзяўчынку за яе яблыкі, і яна ажно ззяла ад радасці.

— Гэта яблыкі ленінскія, — сказала дзяўчынка.

— Ленінскія?

— Ага. З ленінскіх яблынь.

Пра гісторыю ленінскіх яблынь расказаў нам шафёр нашай «Волгі» таварыш Адам.

Больш як пяцьдзесят год назад у гэтым краі жыў Ленін. Ён любіў хадзіць у горы. Надзене, бывала, рукзак* за плечы, шыракаполы капялюш, кій у рукі і пайшоў на ўвесь дзень.

Аднойчы ў горы накіравалася цэлая кампанія. Быў у той кампаніі і хлопчык Стась, сын мясцовага доктара. Вясёлая была гэта прагулка. Расказвалі смешныя гісторыі, спявалі.

На адной палянцы спыніліся на адпачынак. Паскідалі рукзакі, нацягалі ламачча і распалілі вогнішча. На абрус кожны выклаў свае прыпасы.

— Таварышы, частуйцеся: вельмі смачныя яблыкі, — сказаў Ленін. — Іх прывёз мне адзін чалавек з Украіны.

Але ўсім па цэламу яблыку не хапала, і Ленін парэзаў іх напалам. А калі рэзаў, то на абрус з яблыкаў высыпалася некалькі зярнятак.

Ленін сабраў зярняткі, патрос іх на далоні, сказаў:

— Давайце пасадзім гэтыя зярняткі. Няхай вырастуць з іх яблыні.

Усім гэта спадабалася, і раней другіх аб'явіўся памочнікам Стась. Хлопчык выкопваў ножыкам ямачкі, а Ленін клаў туды зярняткі і засыпаў зямлёй. Па некалькі ў адну ямачку. А потым Стась набраў з ручука дзве біклагі вады і выліў у ямачкі.

— Абавязкова вырастуць нашы яблыні, — сказаў Ленін. — І ты, Стась, дачакаешся з іх яблыкаў. Так, Стась?

— Я іх у сад перанясу, — адказаў Стась. — Прышчаплю. Я на садоўніка буду вучыцца.

— Правільна, Стась, — пахваліў Ленін. — Садоўнік — гэта выдатная прафесія на зямлі.

Людзі адпачылі, падняліся і пайшлі далей. Ніхто, акрамя Стася, на тую паляну больш не прыходзіў.

Зярняткі прараслі, спачатку праклюнуліся з зямлі буравагыя лісцікі, а потым пацягнуліся ўгору сцяблінкі, зялёныя і кволыя, як траўка. І пайшлі ў рост, сталі набіраць вышыню і сілу шэсць пасаджаных Леніным яблынек.

Праз два гады Стась перасадзіў іх у свой сад, а калі яны падужэлі, падраслі, прышчапіў. З шасці яблынек прыжылося чатыры.

Вырас Стась, стаў студэнтам сельскагаспадарчай акадэміі, выраслі і далі першы багаты ўраджай яблыні. Стась частаваў людзей яблыкамі і расказваў іх гісторыю. Людзі бралі з тых яблынь у свае сады на прышчэпкі парасткі і называлі іх ленінскімі.

Прайшло з той пары больш паловы стагоддзя. Тыя чатыры яблыні ўжо засохлі. Але яны далі жыццё многім іншым яблыням. І калі людзі ў тым краі частуюць яблыкамі, то з гонарам гавораць:

— Гэта з ленінскіх яблынь. Іх Ленін садзіў.

Вось і нас, гасцей з Савецкай краіны, прыгожанькая дзяўчынка пачаставала ленінскімі яблыкамі.

Тры яблыкі я прывёз дамоў. Выбраў з іх зярняткі і вясной пасаджу пад сваім акном. А калі вырастуць, назаву яблыні ленінскімі і буду расказваць людзям іх гісторыю.

**Васіль Хомчанка**

1. Растлумачце сэнс загалоўка.
2. Аб чым сведчыць той факт, што назва ленінскіх яблыкаў захавалася да сённяшняга дня.

**Слоўнік**

Рукзак — падарожная торба, якую носяць за плячыма.

* ✲ *

Ад ленінскай навукі мацнеюць розум і рукі.

Ленін не загінуў, ён справу народу пакінуў.

# СІЛАСЫ

Сельскагаспадарчыя гурткі Беластоцкага ваяводства на працягу 4-рох апошніх год за парадай грамадскіх аграномаў пабудавалі 17.390 бетонных ям для сіласавання корму.

Аказваецца, аднак, што не ўсе ямы былі выкарыстаны згодна з прызначэннем. Многія гаспадары пераўтварылі сіласныя ямы проста ў паграбы. Перахоўвалі ў іх бульбу і іншую агародніну. Асабліва многа гаспадароў рабіла так у Гайнаўскім, Дуброўскім, Сакольскім і ў некаторых раёнах Беластоцкага і Граеўскага паветаў.

Аграномам гавораць яны, што не маюць чаго сіласаваць. І сапраўды, у гэтых раёнах Беласточчыны мала вырошчваюць буракоў і кукурузы. Гэтыя расліны пакуль што з'яўляюцца асновай для закладкі сіласаў.

Зараз сельскагаспадарчыя гурткі і грамадскія аграномы атрымалі заданне, каб навучыць сялян сіласаваць іншыя расліны, перш за ўсё асеннія паплёны і трэці пакос сена. На 1968—70 гады апрацавана дакладны план арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці ў гэтай галіне. Можна тады спадзявацца, што ва ўсім ваяводстве бетонныя сіласныя ямы будуць выкарыстаны згодна з іх прызначэннем, а сялянам прыбудзе дадатковы каштоўны корм для жывёлы.

(вр)

# У СЯМЯЦІЦКІМ ПРЭЗІДЫУМЕ П Р Н

У апошнім часе **Прэзідыум ПРН у Сямяцічах** прысвяціў многа часу сельскагаспадарчым справам. Перш за ўсё была аналізавана справа дзейнасці сельскагаспадарчых гурткоў, працы агра- і заатэхнічнай службы, а таксама справы звязаныя з вапнаваннем і ўгнаеннем глебы.

Сцвярджаючы недахопы ў дзейнасці сельгасгурткоў Прэзідыум указаў Павятоваму саюзу сельскагаспадарчых гурткоў (ПЗКР), каб пабольшыў лічбу кантроляў у галіне фінансавай гаспадаркі гурткоў, а таксама ўласцівай кансервацыі і эксплуатацыі сельгасмашын.

Аналізуючы працу агра- і заатэхнічнай службы была звернута, перш за ўсё, увага на справу стабілізацыі кадры ў сельскай гаспадарцы. Прэзідыум абавязаў Аддзел ральніцтва і лясніцтва, а таксама ПЗКР да пераанапізавання прыдатнасці сельскагаспадарчай службы, а таксама да навязання больш цеснага супрацоўніцтва з сельскагаспадарчым тэхнікумам у Чартасве ў галіне падборкі кадры маладых тэхнікаў. Апрача таго вышэй указаныя ўстановы апрацуюць праграму шкалення сельскагаспадарчай службы ў галіне рэалізацыі цяперашніх і будучых заданняў, указаных агульнай палітыкай партыі і ўрада.

Асноўная ўвага была звернута аднак на **праблему вапнавання і ўгнаення глеб.** Прэзідыум прыняў шмат пачынанняў адносна рэалізацыі праграмы ўгнаення глеб прынятай 14 жніўня 1967 г. І так, у сувязі з тым, што на тэрыторыі некаторых ГРН Сямяціцкага павета **будзе ўведзены абавязак угнаенняў**, указана паасобным рэсортам на правядзенне падрыхтоўчай працы. Будзе яна, між іншым, заключацца ў правядзенні распазнання сярод паасобных гаспадароў, якія дозы ўгнаення яны прымяняюць зараз і рабіць спіскі гаспадароў. Апрача таго ў кожнай вёсцы будуць выдзелены па дзве гаспадаркі для доследаў у галіне прымянення высокіх дозаў угнаення.

**А. К.**

# СПРАВЫ СУПРАЦЬПАЖАРНАЙ АХОВЫ

Справы супрацьпажарнай аховы належаць у нас да вечных тэм і праблемаў. Звязана гэта, па-першае, з існаваннем драўляных і саломаю крытых вёсак; па-другое, з існаваннем вялікіх лясных масіваў і, па-трэцяе, з усё яшчэ нізкай свядомасцю нашага грамадства. Падсумаваннем гэтага пераліку можа быць сцверджанне адносна прымітыўнай тэхнікі, якой дыспануюць нашы пажарнікі.

Найважнейшая тут першая справа, г.зн. саламяныя стрэхі нашых хат. Няма той вясны ці лета, каб не гарэлі цэлыя вёскі. Прычыны розныя — іскры з коміна, іскры з трактара, запалкі ў руках дзяцей, папяросы ў зубах п'яніц і т.д. Усё гэта так, усё гэта праўда, і трэба змагацца з лёгкадумнасцю.

Найлепшым выйсцем з'яўляюцца мураваныя дамы і будынкі. Ёсць вялікія цяжкасці з будаўнічымі матэрыяламі, але адначасова ёсць магчымасці вырабляць гэтыя матэрыялы сваім гаспадарскім спосабам — чарапіцу, пустакі, нават цэглу. У некаторых сельскагаспадарчых гуртках думаюць аб арганізацыі гаспадарскіх калектываў для вырабу будаўнічых матэрыялаў. Ёсць цэмент, ёсць пясок, ёсць адпаведная тэхніка, якую можна пазычыць у ГС-е або ў ПЗКР. Варта аб тым падумаць у сувязі з набліжэннем будаўнічага сезона.

(ся)

# СУПРАСЛЬСКІЯ ФРЭСКІ





Слаўная супрасльская царква з пачатку XVI стагоддзя (1511 год) была знішчана немцамі ў канцы вайны ў час адступлення гітлераўцаў. Удалося захаваць каля 30-ці бясцэнных фрэскаў, якія закансервавана вялікім намаганнем. Выстаўка іх адбудзецца ў Беластоку ў адноўленым музеі ў Ратушы.

Побач з захаванымі фрэскамі стане макета царквы вышынёй 2 метры, выкананая мастаком **Юзэфам Латоўскім**. Знешні і ўнутраны выгляд, малюнкі, колеры, адпавядаюць фактычнаму становішчу, якое было сапраўды ў царкве.

На якой падставе мастак рэканструяваў усё гэта?

Гаворыць **Юзэф Латоўскі:**

— Падставай для мяне былі:

1) уласнаручна вымераныя фундаменты царквы, якія захаваліся дагэтуль,

2) планы ваяводскага кансерватара,

3) здымкі царквы, звонку і знутры, са збораў кансерватара і прыватных, у ліку каля 50-ці штук,

4) апісанне памятнікаў старадаўнасці ў Пакрышкіна — аўтара манаграфіі царквы з пачатку XX стагоддзя пад загалоўкам «Благовешченский собор в Супрасли»,

5) захаваныя фрагменты паліхроміі ў Акруговым музеі ў Беластоку.

— З чаго вы рабілі макету?

— Матэрыял: стэрапіян, гіпс, дрэва. Цэласць разрэзана па палавіне, так што можна яе расхіліць і бачыць унутраны выгляд.

Унутраныя фрагменты, для якіх я меў іканаграфічную дакументацыю (здымкі), зрабіў у колерах. Іншыя толькі ў абрысах. На здымку яны белыя».

(вл)

да ў Мінску. Ён прыняў першую Канстытуцыю БССР. Яна заканадаўча зацвердзіла прынцыпы сацыялістычнага дзяржаўнага і гаспадарчага ладу Беларусі, акрэсліла структуру ўсіх органаў улады ў рэспубліцы, аб'явіла ўсебеларускі з'езд Саветаў найвышэйшай уладай у БССР, а паміж з'ездамі — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт. На з'ездзе з прывітальнай прамовай выступіў старшыня Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Я. М. Свярдлоў. Ён паведаміў аб пастанове Савецкага ўрада аб прызнанні незалежнасці БССР і гатоўнасці аказаць братнюю дапамогу гераічнаму і мужнаму беларускаму народу. З'езд у сваёй дэкларацыі прыняў рашэнне: «Пачаць перагаворы з Расійскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай па ўстанаўленню федэратыўнай сувязі паміж ёю і Савецкай Беларуссю».

Беларускі народ уступіў на шлях сацыялістычнага развіцця свайго жыцця, гаспадаркі і культуры ў брацкай еднасці з іншымі вольнымі народамі Краіны Саветаў.

*ПЫТАННІ*

1. *Што загамавала сацыялістычнае будаўніцтва ў Беларусі?*
2. *Як беларускі народ аднёсся да нямецкіх акупантаў?*
3. *Калі была вызвалена Беларусь ад нямецкіх захопнікаў?*
4. *Калі адбыўся Першы з'езд Камуністычнай партыі Беларусі, што ён выбраў і зацвердзіў?*
5. *Калі было абвешчана ўтварэнне БССР?*
6. *Калі адбыўся Першы Усебеларускі з'езд Саветаў? Якія пастановы і рашэнні ён прыняў?*



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Камітэт маладзёжных арганізацый Беларускай ССР



Пасяджэнне бюро Камітэта маладзёжных арганізацый БССР.
Фота В. Казлова

### КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БССР

Штогод у Беларусь прыязджае ўсё больш прадстаўнікоў моладзі з многіх замежных краін. Жыццё сённяшняга дня немагчыма без цеснай сувязі моладзі розных краін, іх узаемнага ўдзелу ў дыскусіях па праблемных пытаннях і іншых кантактаў паміж падрастаючымі пакаленнямі. Гэта і акрэслівае ролю і практычную дзейнасць Камітэта маладзёжных арганізацый БССР.

Гэтая арганізацыя ўносіць акрэслены ўклад ва ўмацаванне сяброўскіх сувязей і кантактаў паміж моладдзю Беларусі і іх замежнымі равеснікамі. За апошні час Камітэт маладзёжных арганізацый прымаў дэлегацыю фінскай моладзі, прадстаўнікоў: моладзі Японіі, пасланцаў Італьянскай Федэрацыі камуністычнай моладзі, удзельнікаў адбываючайся ў Ленінградзе міжнароднай сустрэчы моладзі і шэрагу іншых замежных маладзёжных арганізацый.

Юнакам і дзяўчатам, якія прыязджаюць у рэспубліку з замежных краін, Камітэт дае шырокую магчымасць для запазнання са славутымі памяткамі гарадоў, наведання прамысловых прадпрыемстваў, вышэйшых навуковых устаноў, устаноў культуры, арганізуе сустрэчы па прафесіях, дыспуты па актуальных пытаннях сучаснасці.

Камітэт маладзёжных арганізацый БССР кіруе прадстаўнікоў беларускай моладзі на міжнародныя фестывалі, форумы і іншыя маладзёжныя сустрэчы. Так, пасланцы нашай моладзі былі гасцьмі на з'ездзе Камуністычнай моладзі Англіі, выязджалі на Кіпр, Кубу, у Манголію, Чэхаславакію і шэраг іншых краін.

Наша арганізацыя дапамагае юнакам, дзяўчатам і школьнікам рэспублікі наладжваць перапіску з іх замежнымі сябрамі. Мы стараемся арганізоўваць узаемную сувязь паміж прадстаўнікамі ўсялякіх прафесій, спецыяльнасцей і роду заняткаў. З мэтай лепшага запазнання з Беларускай ССР Камітэт накіроўвае ў адрас замежных маладзёжных арганізацый усялякія кінафільмы, альбомы, выстаўкі і іншыя матэрыялы.

За апошнія гады значна пашырыўся турызм. Беларускія юнакі і дзяўчаты, пабываўшыя за мяжою і, пазнаёміўшыся там са сваімі равеснікамі, вярнуўшыся на свае заводы і фабрыкі, падтрымліваюць з імі сяброўскія сувязі.

Вялікае распаўсюджванне атрымаў абмен групамі студэнцкай і вучнёўскай моладзі. Група студэнтаў Беларускага ўніверсітэта імя Ул. І. Леніна пабывала ў Югаславіі, студэнты Беларускага палітэхнічнага інстытута наведалі Чэхаславакію, вучні прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча — ГДР.

Камітэт маладзёжных арганізацый практыкуе таксама абмен спецыялізаванымі турысцкімі групамі. Гэтыя групы камплектуюцца з рабочых акрэсленых галін народнай гаспадаркі. У Венгрыю выязджала група меліяратараў, у ЧССР — маладыя будаўнікі, Фінляндыю наведала група маладых архітэктараў. Добра былі прыняты за мяжою самадзейныя выканаўчыя калектывы «Радасць» з горада Брэста і «Юнацтва» з г. Баранавічы.

Камітэт маладзёжных арганізацый БССР клапоціцца аб тым, каб моладзь рэспублікі ведала аб жыцці моладзі за мяжою. З гэтай мэтай у раённых, абласных, рэспубліканскіх газетах і часопісах перыядычна друкуюцца матэрыялы таварышаў, якія выязджаюць за мяжу. Выдадзены кнігі А. Раманава «Англія без імглы» і С. Паўлава «Каштаны наліваюцца гневам». Кіналюбіцелі, наведаўшыя Польшчу і Чэхаславакію, стварылі два тэлевізійныя фільмы «Дарогай дружбы». Тэлевізійны фільм аб Канадзе адзнялі маладыя кінааператары, якія пабывалі на ЭКСПО-67.

Вялікую работу па замацаванню міжнародных маладзёжных сувязей праводзяць клубы інтэрнацыянальнай дружбы, створаныя ў Беларускім універсітэце, на Мінскім гадзіннікавым заводзе, пры Мінскім Палацы піянераў і школьнікаў, у шматлікіх школах і ў іншых маладзёжных калектывах. Клубы арганізуюць выстаўкі, перапіску, гутаркі, сустрэчы, дыспуты, дзякуючы якім юнакі і дзяўчаты даведваюцца многа новага і цікавага з жыцця моладзі за мяжою.

Усё больш мацнее і развіваецца дружба савецкай моладзі з юнацтвам планеты. І ў гэтую высакародную справу ўносіць свой уклад Камітэт маладзёжных арганізацый Савецкай Беларусі.

**Арсень Ваніцкі,**
старшыня Камітэта маладзёжных арганізацый БССР

## ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

### КАТЛЕТЫ З БУЛЬБЫ І ВАРАНАГА МЯСА

Калі вы загатавалі крупнік на так званых субпрадуктах (вантробах) або на цяляціне з косткай — выньце мякаць з супу, прапусціце праз мясарубку разам з варанай бульбай (каля 1 кг). Можна ўзяць бульбу, якая асталася з учарашняга дня. Да гэтай масы дадайце 2 яйкі, абсмажаную ў тлушчы дробна парэзаную цыбуліну, соль, перац. Перамяшайце ўсё як след, падсыпце 2—3 лыжкі мукі або тоўчаных сухароў, сфармуйце авальныя катлеты, абкачайце ў тоўчаных сухарах і падсмажце з абодвух бакоў, пакуль не паявіцца румяная скарынка.

### СПОСАБ НА ЧАРВЯКОЎ

Каб у муцэ і рысе не заводзіліся чарвякі, пакладзіце ў кулёк некалькі зубкоў часнаку.

## ШКІПІНАР

Шкіпінар палягчае адбельванне бялізны. Дастаткова падліць тры сталовыя лыжкі шкіпінару на вядро вады.

Заварыце крухмал для бялізны ў мыльнай вадзе і дадайце некалькі кропель шкіпінару. Тады прас не будзе прыліпаць да бялізны.

Шкіпінар неабходны і пры догләдзе лінолеумавай падлогі, якую мыюць мылам. Змыўшы мыльны раствор, выціраюць насуха падлогу. Прыкладна праз тры месяцы лінолеум праціраюць натуральнай аліфай, старанна сціраючы яе затым мяккім шматком. Націраюць лінолеум сумессю адной часткі воску, адной часткі парафіны і пяці частак шкіпінару. Пры змешванні іх награваюць.

Скуру старога абутку асвяжаюць шкіпінарам, падліўшы тры-чатыры кроплі малака. Працёршы такім растворам абутак, яго чысцяць шчоткай і аксамітным шматком.

## „ВАЛЯНТОВА"

Гэта страшная хвароба, якую на вёсцы называюць «валянтоваю», мае, так сказаць, некалькі гатункаў. Калісьці, у сярэдневякоўі, псіхічныя хваробы былі вельмі пашыраныя не толькі з увагі на нізкі ўзровень жыцця і навукі, але таксама з увагі на нечуваны рэлігійны фанатызм. Праз вуліцы гарадоў сярэдневяковай Еўропы праходзілі натоўпы пілігрымаў, а таксама фанатыкаў, званых, бічоўнікамі ад таго, што катавалі самыя сябе кіямі, ланцугамі і т.д. Калі ў такім натоўпе адзін бічоўнік меў прыступ істэрыі, кідаўся ў ашалелы танец, мамантальна пераносілася гэта на рэшту ўдзельнікаў паходу. У адным з нямецкіх гарадоў таго часу мела месца агульная істэрыя, усе жыхары горада ў шалёных танцах вар'ятаў пайшлі ў касцёлы. Падобныя эпідэміі істэрыі мелі месца сярод дзяцей, манахаў і нават войска.

Аднак было б хіба памылкай цвярдзіць, што гэтыя эпідэміі праміналі беспаваротна. Даволі паглядзець, што робіцца ў час канцэртаў сучаснай музыкі. Нядаўна, у Беластоку, у час канцэрта вядомага Немана тысячы хлопцаў і дзяўчат у зале «Ягелёніі» і перад будынкам крычалі, вішчалі, рвалі адзенне, ламалі мэблю, цешыліся невядома чым, бы вар'яты. Ніхто ўжо не мог пачуць ані спеву Немана, ані музыкі.

Прыступам істэрыі паддаюцца слабыя асабовасці. Нармальны чалавек пераносіць крыкі, шумы і не паддаецца ім. Сугестыя джазавай музыкі невыпадкова даводзіць да шаленства, менавіта, моладзь, у якой яшчэ не склалася канчаткова асабовасць, характар і т.д.

Лекары лічаць гэта праявай хваробы, але хваробы, якую лёгка лячыць. Вылячальная яна пры дапамозе нават простых фармацэўтычных сродкаў, супакойваючых лекаў.

(а-ся)




Цела наліта цяжкасцю. Карцаў засынае. Яго будзіць святло. Ён асцярожна выстаўляе галаву з-за скалы. У гроце працуюць. Ля стэлажаў, дзе ляжаць тарпеды, возіцца барадаты — той, што ўчора арудаваў молатам. На ім пояс з вялікім пісталетам.

Кран, які выцягваў тарпеды, стаіць ля края пляцоўкі. За яго рычагамі другі жыхар падзямелля. Страла крана нахілена да вады. Туды ж глядзіць і кранаўшчык. Карцаў прыкмячае цень, які рухаецца ў глыбіні лагуны. Цень расце. Неўзабаве ўсплывае прадмет, які нагадвае вялікую сігару. Тарпеда падобная да тых, што ляжаць на стэлажах. Не, яна шмат карацейшая. І ззаду плыве чалавек. Карцаў бачыць доўгія ручкі, за якія трымаецца плывец, а ў тарцы сігары — вінты. Падводны буксіроўшчык!

Сігара і чалавек набліжаюцца да крана. Плывец накідае на гак стралы пятлю троса і робіць знак кранаўшчыку.

Карцаў чакае: цяпер кран падніме сігару.

Але буксіроўшчык працягвае шлях і неўзабаве ён ля трапа. Тут плывец пакідае свой апарат і падымаецца на скалу. Дужы, гібкі, у гумовым касцюме, у перапончатых ластах, ён скідае пояс з грузамі, рэспіратар і сядае на камень. Твар малады, прыгожы, але здзіўляюча вялы. Сеўшы, чалавек застыў, быццам раптоўна ўпаў у задуменне.

Між тым страла крана ідзе ўверх і выцягвае з вады нешта дзіўнае. У паветры гірлянда вялікіх гумовых мяшкоў, туга набітых, абвязаных тросам. Кран укладвае іх на пляцоўцы.

Тут жа з глыбіні ўсплывае другі буксіроўшчык з плыўцом, а за ім яшчэ пяць буксіроўшчыкаў. Адзін за другім яны падплываюць да пляцоўкі, цягнучы за сабою мяшкі. Неўзабаве ўвесь груз ляжыць на скале. А непадалёку сядзяць сямёра плыўцоў — маладых, у аднолькавых касцюмах, аднолькава абыякавыя і вялыя...

На пляцоўцы з'яўляецца яшчэ нехта. Жанчына! Яна выйшла з тунеля. На ёй сіняя куртка, жоўтыя вязаныя гамашы і пояс з пісталетам.

Падышоўшы да плыўцоў, яна дастае з перакінутай праз плячо торбы брыкеты, раздае іх:

— Ешце!

Вадалазы разрываюць папяровую ўпакоўку.

— Хутчэй! — патрабуе жанчына. — У вас мала часу!

Плыўцы запіхаюць ежу ў рот. Дзіўна: яны не змянілі позы, не зрабілі ніводнага лішняга руху.

— Зніміце ласты! — камандуе жанчына, калі з ежай скончана.

Плыўцы нахіляюцца, сцягваюць ласты і адкладаюць іх убок.

— Устаньце і ідзіце!

Уся група падыходзіць да мяшкоў, падымае дзве вязкі і скрываецца ў тунелі.

Неўзабаве людзі вяртаюцца за новым грузам.

Вось аднесены ўсе мяшкі. Плыўцы сядаюць адпачываць. Жанчына звяртаецца да кранаўшчыка:

— Сігарэту, Вальтэр!

— Прашу, фройляйн Рышэр.

— О, «Люкс»! Дзе дасталі?

— Усё там жа, фройляйн: у сябе ў шафе.

— А мае запасы ўжо кончыліся.

— Трэба ашчаднай быць.

— Э, глупства! — Жанчына моцна зацягваецца. — Хутка ў мяне будзе ўдоваль і сігарэт, і сонца, і ўсяго, чаго я ні захачу!

Кранаўшчык скочыў з сядзення сваёй машыны:

— Едзеце?..

— Чалавек, які ўвесь час вазіўся каля тарпед, цяпер адзяваецца для спуска пад ваду. Пры апошніх словах жанчыны ён выходзіць на сярэдзіну пляцоўкі.

— Значыць, едзеце? — гаворыць ён густым басам. — Дабіліся свайго. Ну, а хто будзе за вас? Сам шэф?

У яго голасе злосць.

— Гэта ж не надоўга, Глюк. — Жанчына сціснула плечы. — Тыдзень, ну два. А потым у вас з'явіцца новы лекар, з куды большым вопытам...

— Так, — неакрэслена гаворыць Глюк і плюе. — Што ж, шчаслівай дарогі... — Ён звяртаецца да плыўцоў. — Эй, уставайце!

Тыя паслухмяна падымаюцца.

— Узяць дыхальныя апараты! — камандуе Глюк. — Хутчэй, апараты!

Падыходзіць жанчына. Яна правярае, як вадалазы надзелі паясы з грузіламі, прымацавалі ласты.

— Засталося два рэйсы, — гаворыць жанчына. — Цяпер — у ваду!

Плыўцы ў лагуне, дзе ўжо плыве рыжы Глюк. Уключаны маторы буксіроўшчыкаў. Маленькі атрад ідзе пад ваду.

На працягу некалькіх мінут жанчына і кранаўшчык ціха гутараць, затым хаваюцца ў тунелю.

Пражэктары гаснуць.

Карцаў зноў у цемры.

Адкуль мяшкі і што ў іх? Відаць, ежа, зброя, узрыўчатка. Несумненна, у гроце размешчаны атрад гітлераўскіх плыўцоў. Сховішча дасканалае. Вядома, адсюль і дзейнічалі людзі, якія ўзарва-



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЗВЫРАДНЕЛЫ СЫН

Маці — гэта слова дарагое кожнаму дзіцяці, кожнаму чалавеку. Аб мацярах спяваюць у песнях, пішуць вершы.

Але не ўсе дзеці памятаюць аб сваіх маці. Вось, напрыклад, Толік Карпінскі з Кузавы забыўся, што мае маці. Толік мае 25 год.

У 1966 годзе ажаніўся з дзяўчынай з суседняй вёскі. Цяпер жывуць супольна з маці, Вольгаю Карпінскай у Кузаве. Вольга Карпінская мае 50 год. У час вайны загінуў муж. Асталася ўдавою з сынам, Толікам. Колькі ж працы каштавала выхаванне сына. Перамагла ўсе цяжкасці, вывучыла яго, спадзявалася і чакала спакойнай старасці. Нават у думках не снілася ёй, што адзіны сын скажа калі-небудзь прыкрае слова. Аднак сталася зусім інакш.

Пасля вяселля пачаліся першыя спрэчкі паміж сынам і маці. Гэтыя спрэчкі цягнуліся да гэтага часу. Цяпер ужо не спрэчкі, а сапраўдная вайна ідзе ў хаце Вольгі Карпінскай. Сын выганяе маці з яе ўласнай хаты. Выкідае рэчы на панадворак. Памагае яму ў гэтым жонка. Нядаўна Вольга Карпінская звярнулася аб дапамогу ў чаромхаўскую міліцыю. Два разы міліцыянеры клікалі і праводзілі размову са звыраднелым сынам. За кожным разам Толік хоча сябе апраўдаць. Усю віну скідае на маці. Бяссорамна хлусіць. Нікога не баіцца, ні людзей ні законнасці. Ці ж гэта не сорам? Ці ж ужо забыўся, як маці карміла сваімі грудзьмі, як выдавала цяжка запрацаваныя грошы на навуку? Вядома, цяпер Толіку нічога не патрэба. Мае працу. Нядрэнна зарабляе. Ажаніўся. І гэта, відаць, закруціла яму ў галаве. Адрокся маці. «Заплаціў вялікай «заплатай».

Кактус
Гайнаўскі павет

## НЕ ПАШАНЦАВАЛА

Кожны, каму не хапае грошай, думае пра тое, як іх здабыць. Адны працуюць, іншыя іграюць у «Тота-лётка» (спадзяюцца выйграць). А некаторыя мараць аб цудоўных машынах, што робяць грошы. «Цудоўную рэч» прыдумаў Мікола Іванюк з Янцэвіч (Сямяціцкі павет). У сваю ашчадную кніжку дапісаў адпаведную суму і ў снежні мінулага года пабраў на пошце ў Чаромусе 1.900 зл. Пасля таго знішчыў кніжку. Незадоўга справа выявілася. Міколам Іванюком пацікавілася міліцыя. Абвінавачаны прызнаўся да віны. У сакавіку г.г. адбылася справа ў бельскім судзе. 23-гадовага ашуканца суд прыгаварыў на паўгода арышту (з адтэрміноўкай кары на два гады) і 3.000 зл. штрафу. Як бачым, «цудоўныя рэчы» ашукалі надзеі Міколы Іванюка.

К. М.
Сямяціцкі павет

## КНАРАЗЫ

Сельскагаспадарчы гурток у Кнаразах налічвае 48 членаў. За 1967 год выпрацаваў ён 2237 зл. даходу. У гэтым годзе гурток купіў трэці трактар.

Аляксандр Трахімчук
Храбалы

## ВУЧАЦЦА СВАЙГО РАМЯСТВА

Каб стаць добрым земляробам, трэба таксама вучыцца. Вучоба, якую праходзілі хлопцы і дзяўчаты нашых вёсак у пачатковай школе, не дала ім нічога, каб маглі стаць добрымі земляробамі Як заўсёды, частка моладзі ідзе вучыцца ў горад, дзе застаецца працаваць, а другая частка застаецца на бацькоўскім загоне. Маладыя зразумелі, што і гаспадаркаю кіраваць таксама не зусім лёгка. Многія з тых, што засталіся на вёсцы, пачалі вучобу ў СПР-ах. Тыя, хто не можа з тых ці іншых прычын вучыцца ў СПР-ах, пачынаюць вучобу ў ПР-ах, дзе кожны вучыцца сам, (пад наглядам) пад апекай настаўнікаў або аграномаў. Пасля трох год такой самавучобы кожны прыступае да дзяржаўных экзаменаў.

У Беластоцкім павеце нядаўна адбыліся такія экзамены, да якіх прыступіла 156 асоб. Здало экзамен 150 асоб. Найлепш да экзаменаў была падрыхтавана група з Дубровак каля Васількова, дзе ўсе ўдзельнікі здалі паспяхова экзамен. Апекуном гэтай групы быў Мікола Андрэюк — працаўнік ПЗКР.

Зараз у Беластоцкім павеце працуе тры ступені гурткоў.

I ступень мае 21 гурток, дзе працуе 225 асоб,

II ступень мае 19 гурткоў, дзе працуе 210 асоб,

III ступень мае 17 гурткоў, дзе працуе 200 асоб.

Разам працуе 57 груп, у якіх налічваецца 635 асоб. Дзяўчынкі і хлопцы здабытыя веды выкарыстоўваюць у працы на сваіх і бацькоўскіх загонах.

Варта адзначыць, што Павятовае праўленне сельгасгурткоў і Павятовае праўленне ЗМВ ідуць усім удзельнікам ПР з вялікай дапамогай. Напрыклад, у мінулым годзе было арганізаваных некалькі экскурсій, дзе маладыя земляробы бачылі прыкладныя аднаасобніцкія гаспадаркі і ПГР-ы, новыя машыны ўжываныя ў сельскай гаспадарцы. Усе ўдзельнікі гэтых экскурсій заўсёды былі вельмі задаволены, бо многа ўсяго бачылі, а кошт такой экскурсіі быў малы, бо даплачвала дзяржава.

**Мікола Краўчук**
Патока

## КАЎБАСНЫ КУРС У НОВЫМ ЛЯЎКОВЕ...

Нядаўна закончыўся аднатыднёвы каўбасны курс у Новым Ляўкове (Гайнаўскі павет), які вяла інструктар Леакадзія Зароўская з Сямяціч. На курс прыходзіла 30 жанчын, якія належаць да гуртка вясковых гаспадынь. На курсе гаспадыні навучыліся рабіць не адну толькі каўбасу, ці чорны сальцэсон, як гэта ўжо здаўна прынялося на вёсцы, але і шынку, паляндвіцу і іншыя вяндліны.

Усе жанчыны запісвалі ў сшыткі кулінарныя парады. Падрыхтавалі на заканчэнне курса гасціну, на якую запрасілі сваіх мужоў.

У Ляўкове раней быў курс варэння і пячэння, а зараз гэта ўжо другі курс. Варта дадаць, што ляўкоўскім жанчынам з выдатнай дапамогай у сарганізаванні такога роду мерапрыемства прыходзіць мясцовы сельгасгурток.

Пані інструктар Л. Зароўская вядзе ўжо ад 1958 года розныя курсы, як: гатаванне і пячэння, апрацоўкі льну, перахоўвання гароднiны і фруктаў і іншыя. У тэрэн, а была амаль ва ўсіхгайнаўскіх вёсках, высылае яе ПЗКР у Гайнаўцы. Між іншым вяла курсы ў Новаберазове, Койлах, Дашах, Кляшчэлях, Ляшуках, Катлоўцы і г.д.

Тэкст і фота
Янка Цялушэцкі

На занятках масарскага курса.

## ВІЛІНАВА

Некалькі год таму назад кіраўнік школы ў Вілінаве, Анатоль Мартыновіч, падаў думку, каб у Вілінаве пабудаваць Дом культуры. Думка гэта была вельмі прыхільна прынята моладдзю і старэйшымі. Выбрана грамадскі камітэт будовы, якога ўзначальваў Анаталь Мартыновіч. Усе шчыра прыступілі да работы. Праз два месяцы быў ужо тыповы праект і каштарысы. І ўсё пайшло б вельмі добра, каб не адзін гаспадар, Антоні Мікалаюк, які выступіў супроць усяе вёскі і не дазволіў на зямлі ПФЗ будаваць. Аднак у мінулым годзе дзякуючы дапамозе Павятовага Камітэта партыі і Павятовай рады нарадовай усё закончылася добра. У кастрычніку атрымалі мы планы і дазвол. На працягу месяца зрабілі ўсе фундаменты і склеп, купілі вапну і частку пустакоў. У нядзелю 31 сакавіка гэтага года ўся моладзь зноў выйшла да чынаў. Пляц каля Дома культуры прыгожа зраўнялі. Усё, што зрабілі мы да гэтай пары, выканана грамадскім чынам і ацэньваецца на суму 110 тысяч злотых. Хутка ўжо прыдзе дапамога ад дзяржавы. Нашы планы вялікія. У гэтым годзе хочам аддаць будынак у карыстанне, а будынак, як на вёску, будзе вялікі і прыгожы — 23 м на 21. І пабудуем, таму што ёсць людзі адданыя гэтай справе, такія як: Іван Ахрымук, Міша Уласюк і яго сястра Марыся, Ніна Стрэльчук, Аляксандр Бандарчук і многа, многа іншых. Яны ўсе з'яўляюцца членамі гуртка БГКТ. Дзякуючы ім і актыўнасці ўсяе вёскі план будзе выкананы. Але не толькі Домам культуры жыве моладзь нашай вёскі. Высока пастаўлена тут культурнае жыццё. Зімою падрыхтавалі мы пяць п'ес, з якімі выступілі ў Вілінаве і суседніх вёсках. Апрача п'ес у праграму ўваходзяць песні, гумар і сатыры. Нядаўна адбылася ў нас сустрэча з беларускім паэтам Віктарам Шведам, які чытаў свае вершы. На адным з апошніх сходаў гурток наш прыняў рэзалюцыю ў сувязі з падзеямі ў Варшаве, у якой салідарызуецца з палітыкай нашай партыі і ўрада. Гурток наш праводзіць таксама цікавыя вечарыны і гульні. Адбываецца цікавая дыскусія пры тэлевізары. Працавалі мы таксама пры пабудове дарогі ў вёсцы і пры пасадцы лесу. І нездарма занялі мы першае месца за найлепш працуючы гурток у Малейчыцкім аддзеле.

М. А.
Вілінава

## ПРЫКЛАДНЫ ЎРОК

1-га красавіка адбылася ў Гарадку канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Прысутнічала на гэтай канферэнцыі 30 настаўнікаў Беластоцкага павета. Канферэнцыю пачалі прыкладным урокам, які вёў настаўнік Сцяпан Копа. Тэма ўрока: «Правапіс колькасных лічэбнікаў». Урок быў вельмі цікавы. Калі б кожны з нашых настаўнікаў вёў заўсёды так урокі, як Сцяпан Копа, не было б праблемы з навучаннем беларускае мовы. У дыскусіі голас забіралі: Мікола Рэмжа, Мікола Краўчук, Мікола Лебядзінскі, Аліна Чартовіч. Усе гаварылі аб метадах навучання і выхавання.

К. М.
Гарадок

# Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое Сэрцайка!**

Заўсёды чытаю твае парады і таму рашыў напісаць да цябе. Хачу ў цябе спытаць, ці ёсць у Гайнаўцы дэрматалагічная парадня? Калі ёсць, прашу вельмі падаць дакладны адрас, і ў якія дні і гадзіны прымаюць. Ці лячэнне такіх хвароб адбываецца бясплатна?

За параду буду вельмі ўдзячны.

Ваня з Гайнаўшчыны

**Дарагі Ваня!**

У кожным павятовым горадзе пры Павятовых акруговых пшыходнях існуюць дэрматалагічныя парадні. I так, сталыя парадні існуюць: у Бельску (цяпер лекар дэрматолаг у водпуску, таму прыязджае лекар з Гайнаўкі), у Саколцы, дзе апрача сталага лекара-дэрматолага прыязджае раз у тыдні спецыяліст-дэрматолаг з Беластока, у Гайнаўцы пры вул. 1-га Мая 35. У Сямяцічах няма сталай парадні, а толькі прыязджае лекар - дэрматолаг у кожную сераду.

Дэрматалагічная парадня ў Гайнаўцы прыймае пацыентаў штодзённа ад гадз. $13^{00}$ — $17^{00}$. За лячэнне венэрычных хвароб не плоціцца. Калі пацыент штонебудзь падазравае ў сябе, трэба адразу звярнуцца ў кабінет лекара-дэрматолага пры Павятовай акруговай пшыходні ў Гайнаўцы, а не ў агульную рэестратуру. Калі акажацца, што пацыент здаровы, тады аплочваецца 40 зл. Дыскрэцыя захавана.

Сэрцайка

лі крэйсер і док. Абст хлусіў, што іх даставіла падводная лодка.

Падводная лодка... Стоп!

Толькі цяпер зразумеў Карцаў адкуль гэтыя мяшкі. Да рэчы, ці не на гэтай лодцы збіраецца адправіцца на мацярык жанчына?

Карцаў вырашае дастацца на супрацьлеглы бок лагуны, каб здабыць вады, зброю, харч. Для гэтага трэба аставіць арыенцір, па якім ён зможа вярнуцца назад. Карцаў ужо пазнаў сілу прыліва. Ён разумее: любы пакінуты на скале арыенцір неўзабаве можа апынуцца пад вадой, або высока над ёй. Што рабіць?

І Карцаў ідзе на рызыкоўны крок.

Ён знімае нагавіцы і нажом вырэзвае з іх вузкія доўгія палоскі. Трэба іх нарэзаць як найбольш. Потым звязаць іх і спусціць у лагуну. Стужка павінна дастаць да вады. Тады будзе надзея, што пры вяртанні ён намацае арыенцір.

Намацае! Плысці трэба будзе ўздоўж сцяны грота, плысці доўга і ў цемры, безупынна мацаючы рукой па скале. Будзе цуда, калі пальцы наткнуцца на стужку, якая можа забіцца ў нейкую трэшчыну.

Усё гэта Карцаў разумее. Але ён стараецца не думаць аб няўдачы. Ды і ці варта думаць аб вяртанні ў сховішча, калі невядома, што чакае яго на пляцоўцы і ў тунелю!

(Працяг будзе)

# КІНО

**Праграма на 23—28.IV.1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

„W martwej pętli" (węgierski), 23—24. „Kaukaska branka" (radz.), 25—26. „Dywersanci" (radz.), 27—28.

**Дубіны**

„Grek Zorba" (USA), „Jej siedem wieczorów" (czeski), 27—28.

**Нараўка**

„Komo znany osobiście" (radz), „Komo niebezpieczna misja" (radz), 24—28.

**Нарва**

„Gdzie jesteś Maksymie" (radz), „Królowa stacji benzynowej" (radz.), 24—28.

**Чыжы**

„Dzieci Don Kichota" (radz.), „Dzielnica kruków" (szwedzki), 24—28.

**Дубічы Царкоўныя**

„Zwariowana noc" (polski), „Szesnasta wiosna" (radz.), 24—28.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Złoto" (polski), „Dzwony dla bosych" (czeski), 24—28.

**Орля**

„Fifi piórko" (franc.), „Na pokładzie stanął kapitan" (radz.), 24—28.

**Райск**

„Teresa Desgueraux" (franc.), „Porucznik jazdy" (radz.), 24—28.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Noc bez końca" (bułg.), „Dywersanci" (jugosł.), 23—26.

**Міхалова**

„Szkice węglem" (polski), 23—24. „Zaufaj mi Anno" (bułg.), 25—26. „Skąpani w ogniu" (polski), 27—28.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Jak się masz Wero" (węgierski), 23—24. „Mętna woda" (węgierski), 25—26. „Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 27—28.

**Шудзялава**

„Gorzkie dno rzeki" (jugosł.) „Lenin w Polsce" (polski), 24—28.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Kopciuszek w potrzasku" (franc.), „Mętna woda" (węgierski), 24—28.

**Новы Двор**

„Królowa stacji benzynowej" (radz.), „Listek figowy" (węgierski), 27—28.

**Ліпск**

„Flip, Flap i inni" (USA), „Listek figowy" (węgierski), 27—28.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-33-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 7276



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

